Ян ЗАПРУДНІК (ЗША)

# ДВАРАНСТВА І БЕЛАРУСКАЯ МОВА

**(Да праблемы «Асновы беларускага светапогляду»)**

**Артыкул зроблены паводле даклада на Міжнароднай канферэнцыі «Фарміраванне і развіццё нацыянальнай самасвядомасці беларусаў» 19—20 жніўня 1992 года ў Менску і Маладзечне.**

Сёння, калі мы шмат гаворым пра «нацыянальнае адраджэнне», пра «адбудову нацыі», вельмі важна падаць аналізу само паняцце беларускасці, паколькі паняцце гэтае было катастрафічна звужана да паняцця сялянскасці, мужыцкасці, вясковасці. Звужанасць паняцця беларускасці сталася псіхалагічнай перашкодай на шляху да адраджэння, да ўсведамлення сябе як паўнавартаснага нацыянальнага арганізма. Звужанасць паняцця беларускасці перагароджвае доступ да разумення стратэгічна важных аспектаў нашае мінуўшчыны, патрэбных для ўмацавання будучыні.

Заўважма, што звужэнне паняцця беларускасці адбылося ў моц фактараў як аб'ектыўных, гэтак і суб'ектыўных.

Аб'ектыўным фактарам было тое, што фармаванне тэорыі беларускага адраджэння (пачынаючы ад гоманаўцаў 1884 года) і фармуляванне праграмы беларускага руху адбывалася ў імя сацыяльных нізоў, пастаўленых у цэнтр увагі народнікаў, а пасля сацыялістычнай ідэяй. На пачатку стагоддзя беларус прамовіў вуснамі свайго абуджэнца Янкі Купалы: «Я буду жыць, бо я МУЖЫК!»

Суб'ектыўным фактарам было тое, што ворагі беларускага адраджэння адразу ж угледзелі ў гэтым мужыкоўстве беларуса аргумент супраць беларускага руху — і карыстаюцца гэтым аргументам дасюль — у намаганні абніжаць беларускую ідэю, перш-наперш беларускую культуру, да сацыяльна найніжэйшага ўзроўню, каб пазбавіць гэтую ідэю агульнанацыянальнай радаслоўнай. А мы ў сваёй несвядомасці, у сваім яшчэ ў вялікай меры асяляненым мысленні, запраграмаваным нашаніўскай школай і замацаваным ленінскай метадалогіяй, памагаем нашым ворагам у канцэптуальным абкраданні паняцця «беларускасць». Гэтае збядненне саміх сябе ідзе таксама і ад няпоўнага разумення існасці гістарычнага працэсу.

Для разгляду пытання сацыяльнай генеалогіі ідэі самабытнасці Беларусі, а значыцца і права беларусаў на дзяржаўную незалежнасць, стаўлю тэзу: гістарычны працэс — гэта сума ўчынкаў людзей, намеры якіх часта былі зусім іншыя, чым вынікі іх учынкаў (суб'ектыўнае і аб'ектыўнае ў гісторыі). На падмацаванне гэтай тэзы падам ілюстрацыю ўсім нам відавочную: намеры і мэты, якія ставілі перад сабой аўтары савецкай перабудовы, былі далёкія ад таго, што атрымалася ў сапраўднасці, што мы называем аб'ектыўнай гісторыяй.

Газета «Нью-Йорк Таймс» (21.07.92) падала выказванне чэхаславацкага прэзідэнта Вацлава Гавэла. Пакідаючы сваю прэзідэнцкую пасаду ў выніку распаду Чэха-Славакіі, Гавэл сказаў пра гэты распад: «Я не думаю, што які-небудзь адзін чалавек мог бы стрымаць тое, што гістарычна неабходна».

Чалавек прапракуе, Бог выракуе. Непадуладнасць сацыяльна-палітычных працэсаў чалавечай волі адзначана прымаўкамі ў шмат якіх мовах. Вось жа падобную разбежнасць паміж намерамі і вынікамі мы можам прасачыць і ў складаным ды доўгім ходзе беларускага нацыянальнага адраджэння, у працэсе станаўлення нашае нацыянальнае свядомасці, ідэі беларускае дзяржаўнасці. Беручы агульна, ідэю гэтую фармулявалі не толькі выхадзенцы з сялянства, але таксама людзі іншых станаў, у тым ліку і дваране. У сувязі з гэтым усё наша нацыянальнае адраджэнне, дый увесь гістарычны шлях трэба разглядаць у шырэйшай перспектыве, не звужваючы яго да сялянскага аспекту.

А што робіцца цяпер у беларускай гістарыяграфіі? Паглядзім, да чаго вядзе, так бы сказаць, мужыкоўскае разуменне гісторыі свайго краю.

Вось рэфератыўны зборнік АН Беларусі «Беларусістыка» (№ 11. Мастацтвазнаўства, этнаграфія, фалькларыстыка. Мінск, 1991, с. 71—81) апісаў выдадзеную ў Менску ў 1990 годзе кнігу «Сям'я і сямейны быт беларусаў». Рэдагаваў зборнік паважаны сп. Васіль Бандарчык са сваімі калегамі. Гэта першае даследаванне сямейнага быту беларусаў у перыядзе ад XIV стагоддзя да нашых дзён. Вельмі важная тэма.

Але як разумеюць аўтары кнігі паняцце «беларуская сям'я»? Я засцерагаюся, што самой кнігі не чытаў, і, магчыма, маё ўражанне пра яе зменіцца пасля прачытання. Але, мяркуючы паводле даво-

*(Працяг на с. 3).*

*Меркаванні* — *Меркаванні*

# З ГІМНАМ НЕ ТРЭБА СПЯШАЦЦА

Яшчэ нядаўна цяжка было паверыць, што рэспубліка атрымае сваю дзяржаўнасць. Але нават у тыя, цяпер ужо мінулыя, часы беларусу калі-нікалі рабілася сорамна за свой гімн, дзе яго мелі за «малодшага брата». Таму з такім хваляваннем мы сёння чакаем вынікаў конкурсу на лепшы тэкст. Дагэтуль работа журы была «абвеяна таямніцай». І вось з'явіліся шэсць конкурсных варыянтаў. Калі не лічыць першых трох — даўно вядомай класікі, то цяжка паверыць, што не знайшлося нічога лепшага, што людзі з густам (а ў кампетэнцыі журы мы не маем падстаў сумнявацца) свядома палічылі гэтыя тэксты вартымі конкурсу. Якія ж тады былі астатнія? Але гэтае пытанне застаецца рытарычным, бо папярэдні адбор адбываўся пад вялікім сакрэтам ад грамадскасці.

Два апошнія тэксты (а ў пэўнай ступені і «3-і варыянт») цяжка назваць вершамі, бо ўяўляюць яны просты набор слоў і лозунгаў, тут адсутнічае не толькі намёк на паэтычнасць і мінімум вершаванай тэхнікі, але нават колькі-небудзь элементарны змест. Перад намі — абрыўкі перабудовачна-адраджэнскіх канцэпцый, беларушчына, перасаджаная на «саўкоўскую» глебу.

Возьмем «А хто там ідзе?» Тут табе ўсё: і «Не пакіне Бог Нашу Беларусь» (параўнайма: «Боже, царя храни»), і «Руш у паход Нескароны народ» («Марш, марш вперёд, свободный народ» або «Марш, марш, Дамброўскі»). Радок жа «Пад крысом «Пагоні» — гэта пародыя, якая не патрабуе каментару.

«О, фартуна» яшчэ больш лозунгавая і бессюжэтная. У тэксце кожныя некалькі радкоў мяняюцца лады і часы дзеясловаў; такое ўражанне, што перад намі нейкая неўнарадкаваная прамова. Зразумела: у бедных савецкіх паэтаў нарэшце «прарваліся» нацыянальныя пачуцці, але якія адносіны гэта мае да гімна? «О, фартуна» (як, зрэшты, і «3-і варыянт», і «А хто там ідзе?») наскрозь цытатная, адсылае да папярэдніх вершаў. Словы «Магутны Божа» — да аднайменнага верша Н. Арсенневай, «беларускі вольны дух» — да «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» М. Краўцова, а «нашай волі абуджэнне» — да мітынговай песні С. Сокалава-Воюша. Акрамя таго, у кожным з трох гімнаў згадваецца «Пагоня» (Багдановіча?). Застаецца спытаць: ці не прасцей вярнуцца да першакрыніц?

Наўрад ці два апошнія варыянты здольныя да паўнавартаснае канкурэнцыі. Але на іх фоне тым большую небяспеку ўяўляе «3-і варыянт», які больш за ўсё нагадвае эстрадную песню.

Калі прыгледзецца — то і гэты тэкст похапкам зьлеплены з абрыўкаў гістарычных згадак, старых і найноўшых лозунгаў ды ілжэрамантычнай бутафорыі. Першыя ж словы — дзе гаворыцца пра дом — асацыіруюцца з вядомымі папулярнымі песнямі. Але гэты сімвал, па-першае, занадта прыватны, песенны (і прытым не народнапесенны, а масавы). Па-другое, няма тут асабліва чым хваліцца пра «збераглі», калі на нашых вачах і па сёння разбураецца архітэктура і прырода Беларусі, чаго не назіраецца ў прыбалтыйскіх суседзяў.

Такім чынам, паўстае пытанне: няўжо папярэднія вынікі конкурсу паказалі поўнае банкруцтва нашай сучаснай паэзіі? Наўрад ці. Наступленне кіча і цытатнасці знамянуе надыход эпохі постмадэрнізму, калі аўтэнтычнае выказванне немагчыма фізічна. Гімн жа патрабуе першаснае прастаты, класічнае яснасці, неапасродкаванасці адчування. Акрамя таго, стварэнне яго не церпіць спешкі, і ці не лепш было б спыніцца на класіцы.

Тэкст Краўцова — добрая ваяцкая песня, але менавіта ваяцкая, як і падкрэслена ў падзагалоўку. Тут устаноўка на перманентнае адраджэнне, а кожны з нас марыць пра канчатковае адраджэнне і спакойнае, нармальнае жыццё. Трэба думаць пра будучыню і помніць, што мы ўжо існавалі ў стане перманентнай рэвалюцыі. Зрэшты песня «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» ніколі не была гімнам.

Гімнам БНР, паводле сведчання С. Новіка-Пяюна, лічыўся тэкст Я. Купалы на музыку Янчука (чытайце пра гэта ў першым нумары «Чырвонай змены» за 1992 г.). Дзіўна, што ў Купалы — паэта, які не проста класік, а сімвал, выразнік беларускага духу, камісія не абрала для конкурсу ніводнага верша. Не ўвайшоў у конкурсную шасцёрку і гімн самога С. Новіка-Пяюна — тэкст пераўзыходзіць сваімі вартасцямі большасць прапанаваных нам цяпер. А між тым гэты чалавек, якога так любіць моладзь і якога імкнуцца не заўважаць многія старэйшыя пісьменнікі (да гэтага часу ўсё адкладаецца ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» кніга С. Новіка-Пяюна), нічым не запляміў сябе; ён ледзь не адзіны, хто злучае сабою дух нашаніўства і сучаснасць.

Ды вернемся да конкурсу. Атрымліваецца, што гімнамі здольны стаць толькі два творы: Арсенневай і Багдановіча. Бязумоўна, «Пагоня» — геніяльны верш, варты яго аўтара. Не ў кожнага народа ёсць гімн такога ўзроўню, але музыка, на нашу думку, не зусім адпавядае яму як гімну. Дрэнна, што «Літоўскую пагоню» перарабілі ў «Крывіцкую» і гэтым самым узаконілі не толькі цалкам памылковую гістарычную канцэпцыю, але ў чарговы раз аддалі летувісам Вялікае княства, чарговы раз нечага збаяліся або праявілі непатрэбную сціпласць.

Застаецца «Магутны Божа» Н. Арсенневай. Гэта таксама высокамастацкі твор. Калі ён у нечым і саступае «Пагоні», то ў ім ёсць іншыя вартасці, якія робяць яго найбольш вераГодным варыянтам беларускага гімна. У друку было нараканне на эпітэт «шэрая» праца. Але ў гэтым якраз ёсць рэалістычная хрысціянская праўда: так наканавана чалавеку паводле Пісання. Досі хлусні, хопіць перамалёўваць крывёю будні ў святы. Хрысціянства менавіта вучыць шукаць радасць у звычайнай штодзённшчыне, а не траціць марна сілы на пошукі, якія рана ці позна спустошваюць фізічна і маральна.

Таму Рада дырэктараў музеяў рэспубліканскага значэння ад імя працоўных калектываў аддала галасы за тэкст гімна «Магутны Божа», падпісала выказаныя думкі ў артыкуле «З гімнам не трэба спяшацца» і просіць камісію і нашых дэпутатаў задумацца...

**Рада дырэктараў рэспубліканскіх музеяў.**

# Тэкстаў пакуль няма

У свой час быў аб'яўлены конкурс на стварэнне гімна Рэспублікі Беларусь. Некалькі конкурсных твораў былі змешчаны ў рэспубліканскіх газетах. А вось каб надрукаваць там усе прапанаваныя творы, месца, пэўна, не хапіла. Ці гэтага не пажадала конкурснае журы? Тады скажыце, што ж гэта за конкурс? Гімн — адзін з асноўных сімвалаў дзяржаўнасці. Ён будзе служыць цэлай нацыі і глыбінёй свайго зместу заклікаsuccessfully аб'ядноўваць нацыю, паказваць ёй шлях да развіцця і росквіту. Таму абмяркоўваць яго трэба папярэдне шырока і ўсенародна.

Нарэшце ў эфіры і ў друку з'явіліся папярэднія вынікі конкурсу, дзе да заключнага разгляду адабрана сем твораў, адзін з іх — толькі музычны, без слоў. Не раз і не два перачытаў я гэтыя літаратурныя творы. І зведаў у выніку не радасць, не гонар за наш будучы гімн, а горкае расчараванне.

У гімне ў яркай, кароткай і трапнай форме павінна гаварыцца пра мінулае, сучаснае і будучае дзяржавы. На жаль, у тых шасці варыянтах усё гэта праглядае вельмі цьмяна. «Пагоня» М. Багдановіча і «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» М. Краўцова — добрыя творы, але многае з гэтых твораў ужо не сучасна ні нашым сённяшнім рэаліям, ні, думаецца, заўтрашняму дню.

«Магутны Божа» Н. Арсенневай — хутчэй малітва, а не гімн.

Там адны просьбы і ніякай веры ў свае сілы, у сілы народа, які абвясціў незалежнасць, які хоча будаваць эканамічна моцную прававую дзяржаву. Але аднымі малітвамі яе не пабудуеш.

Пяты варыянт — «А хто там ідзе?», імя сучаснага аўтара на ўмовах конкурсу не называецца. Магчыма, гэта і добра. Бо, на маю думку, для гімна ўжо лепш падышоў бы верш такой жа назвы Янкі Купалы.

Два астатнія вершаваныя варыянты, на маю думку, да гімна ўвогуле не падобныя. Асобныя месцы гэтых вершаў — немудрагелісты набор слоў, лозунгаў і заклікаў, дзе ўсё перамешана, а то і пастаўлена з ног на галаву.

Відаць, журы конкурсу да такой важнай справы паставілася без вялікай адказнасці ці ў яго не было выбару. Напэўна, позна ўжо штосьці прапаноўваць, але для гімна больш падыходзіць верш Янкі Купалы «Гэй, наперад». Хаця — чаму позна? Можна адкласці канчатковы выбар тэксту гімна і пашукаць ці стварыць лепшыя варыянты. Гімн — гэта не шлягер-аднадзёнка. Па задуме ён ствараецца на стагоддзі. Таму і павінен ва ўсім адпавядаць свайму высокаму прызначэнню. Інакш народ яго не прыме.

**В. ЗАБАЙЛОВІЧ.**

**г. Дуброўна.**

*Ян ЗАПРУДНІК* **(ЗША)**

# ДВАРАНСТВА І БЕЛАРУСКАЯ МОВА

*(Працяг. Пачатак на с. 2).*

лі дэтальнага апісання гэтай публікацыі ў рэфератыўным зборніку, беларуская сям'я для сп. Бандарчыка — гэта СЯЛЯНСКАЯ сям'я. Сем'і феадалаў, купцоў, духавенства, бюракратаў, і іншых сацыяльных груп, з якіх складалася гарадское жыхарства сярэднявечнай Беларусі, выпалі з поля зроку даследнікаў, не сталіся часткай беларускага гістарычнага ландшафту.

Гэтак жа звужана, дарэчы, прадстаўляюць беларускую сям'ю і рэдактары выдадзенай у 1989 годзе энцыклапедыі «Этнаграфія Беларусі»: паняцце сям'і тут таксама зведзенае да сялянскасці. Працягваецца, такім чынам, канцэптуальнае абкраданне свае мінуўшчыны, сябе саміх, перад чым перасцерагаў яшчэ ў сярэдзіне 60-ых гадоў Мікола Алексютовіч.

А можа, у мінуўшчыне сапраўды не было беларускіх сем'яў, апрача сялянскіх ды рамесніцкіх? Пытанне, зразумела, рытарычнае. Тым не менш, для скептыкаў зазначу, што, прыкладам, гісторык Васіль Мялешка ў манаграфіі 1988 года пра Магілёў у XVI — сярэдзіне XVII стагоддзя піша (падаю ў перакладзе з расійскае): «Жыхарства Магілёва складалася з тыповых для феадальнага горада сацыяльных груп. Асноўнай сярод іх па сваёй колькасці і значэнні былі мяшчане. Гэта былі буйныя купцы, сярэднія і дробныя гандляры, рамеснікі, што знаходзіліся пад юрысдыкцыяй магістрата... Частка жыхарства была прадстаўлена невялікай групай шляхты, духавенства і замкавай адміністрацыі» (160).

Прыклад з асвятленнем сям'і нам паказвае, што на беларускую мінуўшчыну яшчэ не ўсе нашыя гісторыкі глядзяць інтэлектуальна разняволеным зрокам. Тут часам справа адраджэння беларускай нацыянальнай свядомасці, а разам з тым і навуковая грунтоўнасць, вымагаюць, каб у энцыклапедычных даведніках і дэталізаваных манаграфіях беларуская сям'я разумелася і асвятлялася ва ўсёй сваёй сацыяльнай і культурнай паўнаце — гэтак, прыкладам, як зрабілі аўтары БелСЭ з артыкулам «Адзенне», упрыгожыўшы артыкул малюнкамі адзення ўсіх сацыяльных пластоў гістарычнае Беларусі.

Шатландскі паэт Роберт Бёрнс у адным са сваіх афарыстычных вершаў, якімі ён славіцца, выказаў пажаданне, каб была гэткая сіла, якая дала б нам дар бачыць сябе такімі, якімі іншыя нас бачаць. Гэта, бясспрэчна, вялікі дар, якім мала хто валодае,— бачыць сябе такім, якім іншыя цябе бачаць. Але, з другога боку, трэба таксама памятаць, што вонкавы свет нас, беларусаў, спісаных гуртом у сялянства і аканаваных на сялянства, не пабачыць паўнакроўнай нацыяй, калі мы самі сябе такімі бачыць не будзем.

Хачу тут зазначыць, што гэтае маё сцвярджэнне аніяк не трэба разглядаць, як нейкую знявагу селяніна. Мае бацькі, хоць і мелі настаўніцкую асвету, былі сялянамі, і да селяніна мы ўсе павінны ставіцца з глыбокай пашанай за ягоную працавітасць і ягоны творчы талент. Сялянства захавала нашу родную мову, дало кадры адраджэнцаў. На пэўных этапах наш нацыянальны рух чэрпаў свае фізічныя і духоўныя сілы ў асноўным з сялянства, і ў моц якраз гэтай акалічнасці шмат хто атаясамляў паняцце сацыяльнае з паняццем нацыянальным. У Дзяржаўнай думе Расіі 1906—1917 гадоў у даведніках пра нацыянальнасць дэпутатаў гэтак і пісалі: «белорус-крестьянин» або «крестьянин-белорус».



НА ЗДЫМКУ: Ян Запруднік і Ніл Гілевіч на маладзечанскай зямлі.

**Фота Міхася ХАМЦА.**

Але сёння, калі мы дачакаліся магчымасці свабодна азірацца на сваю мінуўшчыну, калі ад духоўнага адраджэння залежыць — у большай меры, чым людзі звычайна думаюць — адраджэнне эканамічнае, нам асабліва важна ставіць пытанне пра ролю прадстаўнікоў вышэйшых і сярэдніх сацыяльных пластоў на Беларусі — дваранства і шляхты — у беларускім нацыянальным адраджэнні. Трэба вызваляцца ад догмаў і шаблонаў у сваім разуменні працэсу станаўлення беларускай нацыянальнай свядомасці і развіцця беларускага адраджэнскага руху. Бо шмат хто з нас усё яшчэ глядзіць на сваю мінуўшчыну праз прызму ранне-купалаўскіх беларусаў, тых, што ідуць «агромністай такой грамадой» са сваёй «крыўдай» на «худых плячах, на руках у крыві, на нагах у лапцях». І пра літаратуру беларускую пішацца, што яна «ад мужыка. пра мужыка і для мужыка».

Пры ўсёй пашане да выдатнае трыбуны сучаснае нацыянальнае думкі, газеты «Літаратура і мастацтва», нельга не зазначыць, што яе купалаўскі заклік «Людзьмі звацца», паўтараны штотыдня, перашкаджае ўспрыманню нашае мінуўшчыны ва ўсёй яе шматкласавасці, бо кладзе акцэнт, запозненае беларускае дзяржаўнасці. А ведаць іх вельмі важна і з гледзішча на навуковую грунтоўнасць, і дзеля псіхалагічна-палітычных меркаванняў. Гэты апошні момант, псіхалагічна-палітычны, важны ў тым сэнсе, што на беларускую дзяржаўнасць шмат хто ўсё яшчэ глядзіць, як на байструка гісторыі, як на нейкую анамалію сацыяльнай прыроды.

Вось чаму зноў і зноў трэба ставіць пытанне: хто ж на працягу апошніх двух стагоддзяў пракладаў канцэптуальны шлях да незалежнасці Беларусі ў сэнсе фармулявання ідэі апрычонасці і самабытнасці беларускага народа? Дзе ідэйныя вытокі Акта 25 сакавіка 1918 года і, паслядоўна, Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі 27 ліпеня 1990 года?

Ці была якая-небудзь роля беларускага дваранства ў зацяжным працэсе станаўлення беларускае дзяржаўнасці? Няхай нас не бянтэжыць факт, што ў сваёй большасці дваране XIX — пачатку XX стагоддзя не выглядаюць беларусамі, калі мераць іх сённяшняй меркай. Гэткае меранне было б метадалагічна памылковым і палітычна шкодным. Ды мы і не можам вымагаць ад якога б там ні было беларуса, ані ў мінуўшчыне, ані ўжо для сённяшняга дня, на гэтых абяздоленых купалаўскіх мужыках.

У нашых нацыянальных інтарэсах сёння ўстанавіць як мага шырэйшую гістарычную панараму беларускага грамадства мінулых стагоддзяў. Калі мы будзем глядзець на беларусаў XIX — пачатку XX стагоддзя як на выключна плебейскую нацыю — так, як на яе глядзелі народнікі 1880-ых гадоў,— дык мы не зразумеем свае ідэйнае генеалогіі ў сённяшніх новых абставінах, мы не будзем ведаць усіх вытокаў сучаснасці, нейкае стопрацэнтнае адпаведнасці пэўнаму стандарту ў поглядах, бо такое вымаганне — гэта дагматычны і антыдэмакратычны нонсенс. Значыцца, у кожнага свайго папярэдніка на ніве беларушчыны, разумеючы беларушчыну ў самым шырокім сэнсе, трэба шукаць элементаў, якія працавалі б на карысць нашага нацыянальнага адраджэння.

У падыходзе да гістарычных постацяў патрэбная светаглядная талерантнасць і разуменне, што кожная эпоха, кожны перыяд мае свае ідэйныя асаблівасці. Урэшце, паўтараюся, трэба глядзець на гістарычны працэс як на пэўнага роду будаўніцтва, у якім той, хто ўкладае сваю цагліну, не ведае, як ягоная будыніна будзе выглядаць пры наступных пакаленнях.

Мяшчане акадэмік Яўхім Карскі і этнограф Аляксей Сапуноў, дваране-памешчыкі Аляксандр Ельскі, Раман Скірмунт і князь Іеранім Друцкі-Любецкі, як і шмат іншых прадстаўнікоў дваранскіх родаў на Беларусі, пры ўсіх іх светапоглядах і палітычных своеасаблівасцях, унеслі кожны свой уклад у тую Беларусь, якую мы бачым перад сабой сёння. І можна смела сказаць, што ніхто з іх не мог прадбачыць, якой гэтая Беларусь будзе пад канец XX веку, так як тысячы заходніх саветолагаў не маглі прадбачыць нават тры гады наперад, які будзе вынік гарбачоўскае перабудовы з яе канцом камуністычнае «імперыі зла».

Акадэмік Карскі гаварыў пра беларускую мову як пра «наречие» або «западно-русский язык» і быў далёкі ад думкі пра палітычную незалежнасць Беларусі. А на самой справе Карскі, як ніхто іншы, спрычыніўся да ўмацавання гэтага «наречия», як мовы, што сталася галоўным аргументам у нашым змаганні за незалежнасць.

Этнограф Сапуноў быў, паводле нашых сучасных мерак, «заходна-русам». На «заходна-русаў» сённяшнія незалежнікі глядзяць, як на ідэйных недаросткаў. Але гэта Сапуноў бараніў у Дзяржаўнай думе, дзе ён быў дэпутатам ад Віцебскай губерні, права беларусаў на нацыянальнае самавызначэнне і сваімі публікацыямі падтрымліваў веру, што да гэткага самавызначэння дойдзе. У 1910 годзе ў «Витебских Губернских Ведомостях» у нарысе «Беларус і беларусы» (нарыс выйшаў таксама асобнай брашурай) Сапуноў надаваў вялікае значэнне гістарычным ведам як фактару нацыянальнай свядомасці і жыццяздольнасці нашага народа. Пра этнаграфічныя працы Раманава, Гільтэбранта, Бяссонава, Шэйна, Нікіфароўскага ды іншых. Сапуноў казаў, што яны «знявраўдзілі пашыраную думку пра кволасць і друзласць натуры нашчадкаў гэных грозных Палачанаў, як пра іх кажацца ў «Слове аб палку Ігаравым».

Дваранін Раман Скірмунт, род якога стагоддзямі жыў на Палессі, быў асуджаны абэцэдараўцамі як «рэакцыйны намешчык і контррэвалюцыянер» на гістарыяграфічную смерць, на замоўчванне. Контррэвалюцыянерам Скірмунт, бясспрэчна, быў, але не рэакцыянерам. Наадварот, ён належаў да ліку прагрэсіўных гаспадарнікаў. Як дэпутат першай Дзяржаўнай думы ў 1906 годзе, Скірмунт выказваў погляды, да якіх варта было б прыслухацца шмат якім дэпутатам сучаснага Вярхоўнага Савета Беларусі. Скірмунт выступаў супраць нацыяналізацыі зямлі, але за права сялянаў на павелічэнне іх гаспадарак. За нацыяналізацыяй зямлі Скірмунт празорліва бачыў тое, што сталася пасля ў выніку калектывізацыі — валадарства бюракратаў. На чыю карысць нацыяналізацыя пойдзе? — ставіў ён пытанне. І адказваў: «Адзіным спадкаемцам, адзінай юрыдычнай асобай, якая прыняла б у сваю собскасць усе адчужаныя землі, была б дзяржава. Ізноў лахва бюракратыі Эльдарада... Сын не будзе карыстацца вынікамі працы свайго бацькі. Пладамі працы ранейшых уласнікаў будуць карыстацца новыя, чужыя людзі».

Пра Рамана Скірмунта ў шмат якіх дарэвалюцыйных выданнях можна прачытаць як пра «паляка». Тым жа часам сам Скірмунт сябе за паляка не ўважаў. У Дзяржаўнай думе ён быў адным з ініцыятараў руху за аўтаномію Беларусі насуперак некаторым польскім дзеячам. Вынікам гэтага руху было тое, што дэпутаты беларускіх губерняў, якія стаялі за аўтаномію, не ўвайшлі ў аўтанамістычнае Польскае Кола, а ўтварылі сваю асобную групу. Да гэтае групы, апрача Скірмунта, належалі дэпутаты Лядніцкі, Масоніс, віленскі епіскап Роп, Ялавецкі, ксёндз Сангайла ды іншыя прадстаўнікі беларускіх губерняў.

*(Заканчэнне на с. 4).*

*(Працяг. Пачатак у №№ 32—36).*

— Для дурня — можа быць. Для цябе, напрыклад. Ты ж выставілася голая перад гэтаю свіннёю! Кожны раз, калі ёсць мажлівасць сунуць гэта каму-небудзь пад нос, ты яе не ўпускаеш, га?

— Ні пра што іншае ты цяпер думаць не можаш! Цябе не клапоціць, што нам так шчасціць і мы можам змыцца адсюль вольныя. Цябе хвалюе толькі тое, што я падражніла гэтага боўдзілу. Ты б лепш парадаваўся, што нам так пашэнціла!

— Радуюся,— сказаў я, здолеўшы нарэшце паварушыць нагамі.

Я ўстаў, узяў пінжак і рэвальверы і прайшоў у спальню. Надзеўшы пінжак, дастаў з-пад бялізны ў шуфлядзе шафы запасныя абоймы, зарадзіў рэвальверы, паклаў іх у кішэні, надзеў капялюш і пайшоў да выхаду.

— Куды ты? — занепакоена запыталася Холідэй.

— Я вярнуся праз гадзіну.

— Не! — сказала яна рашуча, стаўшы перада мною.— Калі ты пойдзеш зараз да Мэйсана, мы пагарым. Пакінь яго ў спакоі...

— Я пра Мэйсана і не думаў.

— Тады пра каго? Слухай,— сказала яна хутка, — у Джынкса ёсць грошы. Калі выжлы яго накрылі, то няхай ён выблытваецца сам.

— Я і пра Джынкса не думаў. Але мы пустыя. Каб выправіцца ў дарогу, трэба мець трохі капусты.

— Не. Гэта вельмі рызыкоўна. У мяне засталося крыху, нам хопіць. Дастаткова, каб выехаць.

— Колькі?

— Долараў дваццаць...

— І дакуль мы з гэтым дабяромся?

— Далёка...

— Адыдзі,— сказаў я ёй.

Яна схапіла мяне абедзвюма рукамі і пачала трэсці.

— Ты вар'ят?! — закрычала яна.— Нам трэба ехаць! На нас вісіць забойства! Нельга спадзявацца так на фарт...

— Хопіць мяне трэсці,— абсек я.

Трэсці мяне яна перастала, але рук не адпусціла.

— Яны ўмомант павяжуць нас,— задыхалася яна ад хвалявання.

— Не, ты не тая жанчына, якую я бачыў з аўтаматам,— сказаў я.— Цяпер я бачу нейкую іншую...

— Жывёліна! — прашыпела яна і зноў пачала трэсці мяне.

Я з усяе сілы ўдарыў яе левай рукою ў жывот. Яна пахіснулася і абвалілася. Перавёўшы дух, пачала енчыць, выць і стукаць кулакамі па падлозе.

— Заткніся і слухай мяне,— сказаў я, прысеўшы ля яе.— Чуеш, канчай выць.

Яна патроху супакоілася і прыўзняла галаву, каб паглядзець на мяне, як раптам у дзверы зноў пастукалі. Гэта так ашаламіла мяне, што нейкі момант я нават паварушыцца не мог. Холідэй прысела. Я ціха падкраўся да дзвярэй, дастаў з кішэні рэвальвер. Пастукалі зноў, і тут я раптам зразумеў, што гэты нецярплівы стук — няўладны. Гэта мяне трохі супакоіла: вядома, выжлы, вярнуўшыся, так бы — ціхенька — не стукалі. Я асцярожна адчыніў дзверы, хаваючыся за імі. Пугач быў напагатове, я трымаў палец на курку... Гэта быў Джынкс.

Як толькі ён увайшоў, я адразу ж зачыніў дзверы.

Джынкс быў узнерваваны, вочы ў яго так і блішчэлі шалам.

— Гэта Мэйсан нас здаў, гандон. Мэйсан,— сказаў ён.— Я быў на другім канцы вуліцы, у краме старызніка, і бачыў, як ён выходзіў, сучы сын. Быў бы ў мяне пугач, я б яго замачыў, пакуль ён сядаў да выжлаў у тачку... Ну, гандон крываногі...

— Я выдатна разумею твае пачуцці,— сказаў я. — Нас таксама абулі.

— Мяне не абулі. Я не думаў, што яны выпраўляюцца нас абдзіраць. Я не ведаў гэтых выжлаў і вырашыў, што яны мяне вязаць заявіліся...

— Чакай,— абсек я яго.— Дык яны што, не забралі ў цябе грошы?..

— Я ж кажу: я не думаў, што яны заявіліся, каб выцягнуць з мяне грошы. Я вырашыў, што яны вязаць мяне сабраліся...

Мы з Холідэй пераглянуліся і падумалі пра адно і тое ж: калі ён яшчэ не пратраціўся, дык у яго павінны быць грошы.

— Дык як ты змыўся? — спытаў я.

— Калі яны ўвайшлі ў майстэрню праз чорны ўваход, я працаваў. Яны запыталіся ў мяне, дзе Джынкс Рэйнэр. Я сказаў, што ў краме. Яны прайшлі ўперад, а я выслізнуў праз чорны ўваход, каб не павязалі, а яны, бачыце, вунь што задумалі. Я гэта толькі цяпер зразумеў, калі ўбачыў, як Рыс з галоўным інспектарам выходзілі адсюль без вас...

— З галоўным інспектарам? — спытаўся я.— Гэты кнот і ёсць галоўны інспектар?

— Ён самы. Інспектар Уэбэр.

«Бач ты,— падумаў я.— Любіце вы, пан галоўны інспектар, чужымі рукамі капусту касіць...»

— Дык, значыць, у цябе яшчэ ёсць грошы?— спыталася Холідэй.

— Вядома. Дзве штукі. Яны тут,— паляпаў ён па правай кішэні штаноў.

— Выдатна! — узрадавалася яна, і я зразумеў, што яна падумала: зараз мы зможам выехаць з горада, і мне не прыйдзецца нічога прадпрымаць.

— Выдатна! — паўтарыў я, думаючы зусім пра іншае.— У мяне з'явілася ідэя — адмысловая ідэя.

— Ты чуў, што ён меле? — запыталася Холідэй у Джынкса.

— Вядома, ты яшчэ не можаш зразумець,— сказаў я.— Вось у чым драма людзей з вышэйшым інтэлектам: яны не могуць выкласці свае думкі на ўзроўні дастаткова нізкім, каб нават дурань змог іх зразумець.

— О Божа праведны, хопіць выстаўляцца! — узвілася яна.— Ты можаш уцяміць нарэшце, хто ты?.. Няўдаліца!

— Але няўдаліца з некаторымі адзнакамі,— спакойна, павольна, падкрэсліваючы кожнае слова, адказаў я.— Усяго толькі некалькі адзнак: медаль аб выдатным заканчэнні курса класічнай філалогіі, вучоная ступень, калекцыя псіхозаў,

*Горас МАККОЙ*

# БЫВАЙ, ЖЫЦЦЁ, БЫВАЙ, КАХАННЕ!

за якую доктар Ламброза руку аддаў бы на адсячэнне, любоў да сімвалаў снабізму: гальштукаў ад Шарвэта, кашуль ад Брукса, чаравікаў ад Піла...

«Няшчасныя ідыёты,— падумаў я,— перасоўныя страўнікі... Я з вамі доўга важдацца не буду — да тае пары, пакуль вы мне патрэбныя...»

І тут нібы бомба ўзарвалася ва мне, расшкуматаўшы гэтую думку: перад маімі вачыма раптам паўстала Холідэй — голая, у ложку, у ваннай, пад душам, на зямлі, на кані ў прэрыі... Мяне ахапіла звярынае жаданне, праняло наскрозь — і я зразумеў, што я ўжо ніколі не змагу абысціся без Холідэй...

— Канчаем разборы і збіраемся ў дарогу,— сказала Холідэй і пайшла ў спальню.

Джынкс, нахмурыўшы бровы, утупіўся ў мяне.

— Яе паслухаць,— сказаў я яму,— дык можна падумаць, што я яшчэ вуліцу сам перайсці не магу. Ты ўпэўнены, што гэты тып — галоўны інспектар?

— Ты яшчэ пытаешся...

— Тады ён быў вельмі неасцярожны, прыйшоўшы сюды абчысціць нас гэтакім чынам. Мажліва, мы яшчэ зможам сёе-тое абладзіць. Можа, нам не прыйдзецца ўцякаць адсюль так хутка, як мы думалі. Цябе такі паварот задаволіць?

— Яшчэ як!

— А ўрэшце, што нам губляць? — сказаў я.

Холідэй вярнулася са спальні з курткай і валізаю ў руцэ, з капелюшом на галаве.

— Зараз трэба вырашыць, куды мы едзем, і пасланы валізы,— сказала яна.

— Гэтым займуся я,— прашаптаў я Джынксу і павярнуўся да Холідэй: — Мы ўжо вырашылі, куды едзем.

— Куды?

— Нікуды...

Яна глядзела на Джынкса і думала, што гэта жарт, але калі зноў паглядзела на мяне, то зразумела, што гаварыў я зусім сур'ёзна.

Я працягнуў Джынксу адзін з рэвальвераў.

— Проста мы застаёмся тут — вось і ўсё,— сказаў я.— І ніякіх спрэчак.

— Я не збіраюся спрачацца,— сказала Холідэй.— З табою я больш і секунды спрачацца не буду. Ты — няшчасны вар'ят, і я хачу трымацца ад цябе як мага далей.

Яна паглядзела на Джынкса:

— Ты можаш пазычыць мне сотню?

— Ахвотна,— сказаў ён, потым павярнуўся да мяне: — Ральф, а можна застацца разам? Навошта адасабляцца?

— Гэта яна сама настойвае,— сказаў я.— Дай ёй сто долараў, і няхай змываецца, куды хоча...

— Вар'ят,— прамармытала яна.

— Самае лепшае, што ты можаш зрабіць, гэта паслухаць, што я скажу. Зрабі ласку.

— Вар'ят,— ужо прастагнала яна, кладучы куртку і валізу на стол...

Апоўдні рабочыя з кампаніі апаратуры гуказапісу прывезлі да нас партатыўны апарат, тузін новых дванаццаціцалёвых дыскаў, некалькі звыштонкіх іголак і мікрафон з пяцідзесяціфутавым кабелем. Заплаціў за ўсё гэта Джынкс. Апрача гэтага, ён купіў скрынку розных інструментаў, якія ўжо былі ў карыстанні. Калі рабочыя пакінулі кватэру, Холідэй выйшла са спальні.

— Ты задумаў жудасна рызыкоўную гульню,— сказала яна мне.— Гэта гульня з чортам.

— Не разумею, чаму ты так кажаш,— адказаў я спакойна.— Толькі што ты была сведкаю таго, як выжлы знаходзяць мажлівасць узбагаціцца без асаблівага клопату. І паколькі іх свядомасць не змянілася на працягу пяці-шасці пакаленняў, то як яна можа змяніцца за пяць-шэсць гадзін?

— Як ты збіраешся зацягнуць іх сюды?

— Пашамацець стольнікамі, што засталіся ў Джынкса.

Яна скептычна пахістала галавою і павярнулася да Джынкса, які даставаў са скрыні апарат гуказапісу.

— Я пастаўлю яго ў шафу ў спальні,— сказаў я,— і правяду кабель па плінтусе, за канапаю. Яны нічога не заўважаць.

VII

На рагу вуліцы я выйшаў з аўтобуса і накіраваўся да гаража Мэйсана. Здавалася, усё было спакойна, але я ведаў, што на самай справе ўсё зусім інакш. Выжлы ўпусцілі Джынкса — і пастка была напагатове: адзін паліцэйскі павінен быў сядзець у гаражы абавязкова — на той выпадак, калі Джынкс пачне шукаць сустрэчы з Мэйсанам. Мажліва, адзін ганчак сядзеў у кабінеце Мэйсана, побач з тэлефонам, а другі бадзяўся непадалёк ад чорнага ўваходу,— абое, натуральна, у цывільным...

Я спыніўся на парозе кабінета, і тып у цывільным, што стаяў ля стала, побач з тэлефонам, флегматычна паглядзеў на мяне. Яму было гадоў пяцьдзесят ці больш, гэта быў ужо цёрты ганчак. На твары ў яго праступала тая жорсткасць, што з'яўляецца толькі пасля шматгадовага вопыту ўлады.

— У чым справа? — спытаўся ён.

— Мэйсан тут?

— А навошта ён табе?

— Машыну трэба ўзяць.

— Машыну? А якой маркі?

— Няважна — абы кацілa.

— Куды вы хочаце ехаць?..

— Папраўдзе, нікуды,— адказаў я.— Я хацеў бы пачакаць, пакуль тут аб'явяцца Мэйсан з інспектарам Уэбэрам. Інспектар пажадаў, каб я пакінуў горад. Паклічце, калі ласка, Мэйсана...

Збянтэжаны, ганчак неяк па-дурному паглядзеў на мяне, нахмурыўшы бровы — ён нічога не разумеў...

— Дык, значыць, інспектар вас знайшоў...— пачаў ён павольна.

— Знайшоў.

Прыйшоў другі паліцэйскі — той, што бадзяўся каля чорнага ўваходу. Гэтаму было гадоў трыццаць. Залішне малады, каб пыса стала такая ж, як у першага, але ўжо сёе-тое вымалёўвалася.

— Што адбываецца, Рэй? — запытаўся ён.

— Інспектар Уэбэр настойвае, каб гэты тып пакінуў горад.— Ён яшчэ раз паглядзеў на мяне і гаркнуў: — Мэйсан!

Маладзейшы ганчак не зводзіў з мяне вачэй. Абодва былі шакіраваны.

— Што ты хочаш? — спытаўся Мэйсан, пазнаўшы мяне са спіны.

— Машыну.

— Крыты «Форд», чорны, вядома, з маторам «Мэркуры»...

Я азірнуўся. Выгляд у Мэйсана быў насмешлівы, ён быў упэўнены ў сабе: побач стаялі выжлы.

— Можа, я трохі перабраў,— сказаў я.— Час «Мэркуры» яшчэ не настаў. Зараз я задаволюся тым, што мне дадуць. Я падумаў, што ты ці Нэльс зможаце дапамагчы нам выбрацца з горада — мне і Холідэй.

— Я вельмі засмучаны, Ральф,— адказаў ён,— што нічым не змагу табе дапамагчы, нічым. Нішто не прынесла б мне такога задавальнення, як правесці цябе з тваёй кралей і атрымаць кулю ў спіну.

— Ты мяне дрэнна ведаеш,— сказаў я.— Я не злапомны на такія драбніцы. Мне трэба пакінуць горад. Глядзі,— паказаў я восемсот Джынксавых долараў.— Я магу заплаціць. Восем стольнікаў.— Усе былі відавочна здзіўлены.— Ты ж, я мяркую, не падумаў, што я дазволю інспектару абуць мяне дазвання?

— Мне на фіг не трэба ведаць, што ў цябе засталося восем стольнікаў,— буркнуў Мэйсан.— Напляваць мне на гэта. А зараз валі.

Я пайшоў. Апынуўшыся на вуліцы, азірнуўся. Мэйсан зачыкільгаў у глыб гаража. Я ведаў, куды. Да другога тэлефона, каб пазваніць гэтаму сучаму сыну інспектару...

Я пастукаў у дзверы кватэры, але ніхто не адказаў. Падумаўшы, што стукаў ціха, пастукаў мацней. Зноў ніякага адказу. Ані гуку ў кватэры... Я стукнуў у дзверы два-тры разы кулаком, і праз нейкі час дзверы павольна адчыніліся. Я быў вельмі здзіўлены, бо не пачуў перад гэтым аніякіх крокаў.

*(Працяг будзе).*

# Шаноўны сябар!

Калі ты хочаш атрымліваць газету «Наша слова» ў наступным годзе, але не маеш на падпіску сродкаў — не сумуй. Табе дастаткова пацікавіцца гісторыяй нашай Бацькаўшчыны і правільна адказаць на пытанні віктарыны.

Пяць пераможцаў кожнага з трох тураў віктарыны атрымаюць бясплатную падпіску на «Наша слова» на першае паўгоддзе 1993 г. Адказы дасылаць не пазней як за два тыдні з дня выхаду нумара з пытаннямі.

***ВІКТАРЫНА ДЛЯ ШКОЛЬНІКАЎ «СТАРАДАЎНЯЯ БЕЛАРУСЬ» ФУНДАТАРАМІ ВІКТАРЫНЫ ВЫСТУПАЮЦЬ СУПРАЦОЎНІКІ АКЦЫЯНЕРНАГА ТАВАРЫСТВА «КРОСНЫ» СПАДАРЫ ЯН ГРЫБ І ЮРАСЬ ПАЛЬЧЭЎСКІ***

### ТУР ТРЭЦІ

1. У якім годзе войскі Вялікага княства Літоўскага разбілі татара-манголаў на Сіняй Вадзе і вызвалілі ад іх заходнюю частку Украіны?
2. Чаму вялікі князь літоўскі Ягайла адмовіўся ад шлюбу з дачкою маскоўскага князя Дзмітрыя Данскога?
3. З-за чаго вялікі князь літоўскі Вітаўт не змог у 1429 годзе атрымаць тытул караля, а Вялікае княства Літоўскае — статус каралеўства?
4. На чале з якім славутым палкаводцам 30-тысячнае беларускае войска ў 1514 годзе пад Оршаю ўшчэнт разбіла 80-тысячную маскоўскую конніцу?
5. Якія дзяржавы ўтварылі Рэч Паспалітую?




*Лячэнне пропалісам (заканчэнне). Мумiё*

**Пры экземе вушэй і свербе ў вушах.** 40 г раздробленага шкарлупіння няспелых грэцкіх арэхаў настойваюць на 100 г этылавага 70° спірту на працягу 4-5 дзён. Настой працадзіць, дадаць роўную колькасць настою пропалісу. Праціраць сумессю вушы (пры свербе), а пры экземе 2-3 разы на дзень устаўляць у вушы марлевыя скрутачкі, змочаныя ў сумесі. Час дзеяння — 20-40 мін. Лячэнне працягваць 7-8 дзён.

Пропаліс уваходзіць у састаў прадукту дзікай меданоснай пчалы, які атрымаў назву «мумiё асіль» і выкарыстоўваўся ўжо ў медыцыне старажытных людзей. Пра лекавыя ўласцівасці мумiё пісаў яшчэ Авіцэна. Гэтым сродкам лячылі розныя траўматычныя пашкоджанні.

Ужо некалькі дзесяцігоддзяў мумiё, або горны воск, як яго яшчэ называюць, прыцягвае ўвагу сучасных медыкаў. Бальзам сярэднеазіяцкіх гор быў знойдзены ў пячорах на вышыні 2-3 тыс. метраў над узроўнем мора.

**Мумiё** — горкае на смак цвёрдае рэчыва цёмна-карычневага або чорнага колеру з бліскучай паверхняй. Пры награванні размякчаецца, у вадзе раствараецца. У склад мумiё ўваходзіць больш за 26 мікраэлементаў і шмат арганічных рэчываў. Мяркуючы па хімічнаму складу, горны воск з'яўляецца сумессю пропалісавага бальзаму з нязначнай колькасцю мёду дзікіх пчол.

Мумiё — малатаксічнае бактэрыцыднае рэчыва. Узмацняе мінеральны абмен у арганізме, паскарае на 8-17 дзён загойванне пераломаў касцей, лечыць апёкі, язвы, запаленчыя працэсы, хваробы ўнутраных органаў. Распрацаваны інструкцыі па яго выкарыстанні пры лячэнні розных хвароб.

**Універсальны рэцэпт для дарослых.**

Растварыць кавалачак мумiё велічынёй з галоўку запалкі (0,15-0,20 г) у кіпячонай вадзе і прымаць раніцай нашча на працягу 10 дзён, пасля чаго зрабіць перапынак на тыдні два. Колькасць курсаў вагаецца ад трох да чатырох.

**Рэцэпт для дзяцей.**

Ад 3 месяцаў да 1 года — 0,01-0,02 г, да 9 гадоў — 0,05 г, 9-14 гадоў — 0,1 г. на дзень. Запіваць чаем або малаком.



Фальклорны калектыў «Сваякі» створаны толькі паўгода назад пры менскім навукова-вытворчым аб'яднанні «Агмень». Удзельнікі калектыву — выпускнікі Менскага інстытута культуры і кансерваторыі, студэнты — сваю першую канцэртную праграму склалі паводле народных традыцый і звычаяў. «Сваякі» — калектыў прафесійны і, зразумела, імкнецца знайсці свайго гледача. Яны выступалі перад навучэнцамі СПТВ, на свяце Купалле ў вёсцы Шаршуны Менскага раёна, далі дабрачынны канцэрт у дзевятай бальніцы горада Менска. Цяпер «Сваякі» збіраюцца ў першае замежнае турнэ — у Польшчу. Будзем спадзявацца, што і беларускі глядач не абыдзе іх увагай.

**Яўген КАЗЮЛЯ.**
**Белінфарм.**

**На здымку:** фальклорны калектыў «Сваякі».

*Чыталі?*

## «Роднае слова»

Перад пачаткам новага навучальнага года варта нагадаць усім, хто шчыруе на ніве нацыянальнага Адраджэння, пра асноўныя матэрыялы летніх нумароў часопіса **«Роднае слова»/«Беларуская мова і літаратура ў школе».** Магчыма, яны прыдадуцца вам да справы.

Найперш звернем увагу на тое, што ў 5 і 6 нумарах часопіса змешчана абноўленая Праграма па беларускай літаратуры для VIII—XI класаў з паглыбленым вывучэннем роднай літаратуры. Дэбаты наконт яе ў педагагічным асяродку пачаліся, як і чакалася.

Настаўнікаў, студэнтаў, школьнікаў (асабліва будучых абітурыентаў) зацікавіць таксама Праграма-праспект па беларускай літаратуры для VIII — XI класаў сярэдняй школы. У праграме канспектыўна выкладзены асноўныя звесткі па гісторыі нашага прыгожага пісьменства, яна падрыхтавана акадэмічным Інстытутам літаратуры імя Янкі Купалы. Праграма-праспект друкуецца з № 6 з працягам.

Шэраг артыкулаў, якія змешчаны ў летніх нумарах часопіса, прысвечаны юбілею Янкі Купалы. У № 6 расказваецца пра новы філіял музея Янкі Купалы на Лагойшчыне, пра сяброўскія адносіны Янкі Купалы і Якуба Коласа, а таксама пра тое, як адбывалася пахаванне і перазахаванне праху песняра, увекавечанне яго памяці. Матэрыялы багата ілюстраваныя. У № 7—8 (здвоеным) падаецца методыка вывучэння лірыкі Купалы ў X класе, аналізуюцца адметнасці яго мовы, змешчаны артыкулы «Янка Купала на Падняпроўі», «Янка Купала і Слонімшчына», нататкі пра радаводныя карані песняра на Стаўбцоўшчыне, пра мемарыяльны запаведнік «Вязынка». У летніх нумарах надрукаваны распрацоўкі асобных урокаў, прысвечаных творчасці Купалы і Коласа.

Лета было шчодрым на літаратурныя юбілеі. У № 6 часопіс змясціў артыкул 50-гадовага юбіляра Вячаслава Рагойшы «Вяртанне да Львова», нататку пра этнографа Мітрафана Доўнар-Запольскага і яго цікавую этнаграфічную карту. Часопіс падае шэраг матэрыялаў, прысвечаных 75-гадовым юбілеям Пімена Панчанкі і Янкі Брыля. У № 7—8 чытайце інтэрв'ю з Піменам Панчанкам, якое ўзяў паэт Міхась Скобла, нататкі пра творчасць Панчанкі, сцэнарый літаратурнай вечарыны паводле твораў паэта. У гэтым жа нумары — гістарычны каментарый да аповесці Янкі Брыля «Сірочы хлеб» і нататкі да юбілею аўтара гэтага твора — «Кніга яго жыцця». На ўнутраных старонках вокладкі № 7—8 змешчаны фотаздымкі гэтых патрыярхаў беларускай літаратуры з іх аўтографамі для чытачоў часопіса.

З сучасных літаратурных імёнаў, да якіх звярнуўся часопіс улетку, згадаем яшчэ 60-гадовага юбіляра Адама Мальдзіса (у № 7—8 чытайце яго артыкул «Беларускае барока»), Уладзіміра Някляева (яго творчы партрэт у № 6), Уладзіміра Арлова (разглядам яго творчасці ў № 6 заканчваецца аглядны артыкул Алеся Бельскага пра маладую беларускую прозу).

Настаўнікам (найперш) раім засяродзіць увагу на вялікай падборцы артыкулаў пра настаўнікаў-наватараў Бярозаўшчыны (№ 6), на нататках Івана Навуменкі пра гісторыю стварэння камедыі «Пінская шляхта» (№ 7—8), на вопыце стварэння ў школе фальклорнага гуртка (артыкул Яўгеніі Чаплінскай «Фальклорны гурток», № 7—8).

У летніх нумарах часопіса «Роднае слова» вы зможаце прачытаць і іншыя цікавыя артыкулы. Зможаце, калі... знойдзеце часопіс: больш чым 95 працэнтаў яго накладу распаўсюджваецца па падпісцы.

**Іван ЖДАНОВІЧ,**
**супрацоўнік рэдакцыі часопіса.**




*Пачалася падпіска на выданні 1993 года, якая праводзіцца па цэнах, што складаюцца з кошту выдання і затрат на паштовыя паслугі (распаўсюджванне, экспедзіраванне, перавозку, дастаўку).*

(Цана выдавецтва — 1 рубель 50 капеек.
Паштовыя паслугі — 2 рублі).

***Падпісная цана на 1 месяц — 3 рублі 50 капеек;***
***на 3 месяцы — 10 рублёў 50 капеек;***
***на 6 месяцаў — 21 рубель.***

**Індэкс «Нашага слова»— 63865.**

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

Рэдактар Эрнэст Ялугін.
Сябры калегіі: Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Ніл Гілевіч, Уладзімір Дамашэвіч, Алесь Камароўскі, Анатоль Клышка, Алег Куліцкі, Уладзімір Ламека, Уладзімір Содаль, Алесь Траяноўскі, Генадзь Тумаш, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Міхась Шавыркін.

Адказны сакратар Віктар Шніп.

Наш адрас: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.



МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
Наклад 7108 паасобнікаў. Зак. 1195 Індэкс 63865.